**ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ ПЕРАВЕДЗЕНЫ Ў АТРАД**



УПЕРШЫНЮ ЗА 1,5 ГОДА ЁН УБАЧЫЎ НЕБА НАД ГАЛАВОЙ

СТАР. 2

# веснік ПРАВАбарончы

№6 06.2012

**НЕЧАКАНАЯ ПЕРАМОГА МІКАЛАЯ ЧАРНАВУСА**

БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ СУД АДМЯНІЎ ВЫНІКІ "ВЫБАРАЎ"



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: "ЗДАЕЦЦА, ШТО СПАГНАНЬНІ, ЯКІЯ Я АТРЫМАЎ У КАЛОНІІ – НЕ АПОШНІЯ"

Зьняволены кіраўнік Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі, які адбывае пакараньне ў Бабруйскай папраўчай калоніі №2 у сваіх лістах сябрам і знаёмым даволі рэдка паведамляе пра ўмовы ўтрыманьня, альбо на ціск з боку адміністрацыі. Між тым сітуацыя з праваабаронцам досыць складаная і чакаць скарачэньня тэрміну зняволеньня яму пакуль не выпадае.

У сваім апошнім лісце праваабаронцу Валянціну Стэфановічу Алесь Бяляцкі прывёў некалькі фактаў, якія сведчаць пра стаўленьне кіраўніцтва калоніі да палітвязьня.

Алесь Бяляцкі піша, што- "...за гэтыя месяцы ўжо паспеў атрымаць вымову і пазачарговы нарад. Чамусьці мне здаецца, што яны – не апошнія. Увогуле, як аказалася, вязень я далёка не прыкладны. У вывешаным у атрадзе спісе на спатканьне было 4 графы, якія характарызуюць зняволенага. Як аказалася, я там быў самы горшы".

Згодна з гэтымі крытэрыямі адміністрацыя Бабруйскай калоніі №2 вызначае, што Алесь Бяляцкі не прыняў на сябе пісьмовых абавязальніцтваў выпраўіцца, г.зн. прызнаць сваю віну, не бярэ ўдзелу ў самадзейным аб'яднаньні (СА), мае вымову. І толькі ў чацвертай графе становча было пазначана, што ў Бяляцкага няма матэрыяльнага зыску.

Аднак патрэбна патлумачыць, што 29 сакавіка суд Першамайскага раёна Мінска па грамадзянскім зыску падаткавай інспекцыі Першамайскага раёна вырашыў спагнаць дадаткова са зняволенага праваабаронцы больш за 140 мільёнаў рублёў пені – за несвоечасовую ўплату сумы запазычанасці. Пры тым, што сплочаная праваабаронцам у студзені сума паводле прысуду ўжо была праіндэксаваная з улікам інфляцыі, пасля чаго павялічылася больш як удвая. Гэты зыск быў абскарджаны ў касацыйнай інстанцыі Мінскага гарадскога суда, але не быў задаволены і неўзабаве ўступіць у сілу.



Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт FIDH, кіраўнік ПЦ «Вясна».

Такая характарыстыка паўплывала на абмежаваньне ў спатканьні (адныя суткі замест трох), на зьмяншэньне аб'ёму прадуктовай перадачы з 30 да 15 кг. Да ўсяго праваабаронцу адмянілі дадатковыя 5 кг гародніны і садавіны на летні перыяд.

Раней таксама паведамлялася, што да праваабаронцы не даходзіць частка карэспандэнцыі. З гэтай нагоды 5 чэрвеня з Бяляцкім сустракаўся сябра праўленьня Грамадскага аб'яднаньня "Магілёўскі праваабарончы цэнтр" Віктар Сідарэнка, якому ўпраўленьне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму дало дазвол на праверку гэтай інфармацыі.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч занепакоены тым, што напярэдадні прыняцця Закона "Аб амністыі" адміністрацыя калоніі спрабуе зрабіць з Алеся "злоснага парушальніка рэжыму" і такім чынам пазбавіць яго права на амністыю. У сувязі з гэтым праваабаронцы патрабуюць ад адміністрацыі Баруйскай папраўчай калоніі №2 спыніць неабгрунтаваны ціск на Алеся Бяляцкага і нагадваюць, што да лёсу Алеся прыкаваная пільная ўвага не толькі беларускай грамадскасьці, але і аўтарытэтных міжнародных арганізацый, грамадскіх дзеячоў і палітыкаў у шматлікіх краінах свету.

Пазіцыя Праваабарончага цэнтру "Вясна" ў гэтым пытаньні застаецца цвёрдай і нязменнай. Мы патрабуем неадкладнага і безумоўнага вызваленьня ўсіх палітзняволеных.

Патрэбна адзначыць, што на сённяшні дзень фактычна ўсе палітзняволеныя маюць дысцыплінарныя спагнаньні: у дачыненьні да Мікалая Аўтуховіча, Мікалая Статкевіча, Яўгена Васьковіча рэжым быў зменены судом на больш жорсткі, Мікалай Дзядок на шэсць месяцаў накіраваны ў ПКТ. Усе гэтыя дзеяньні маюць адзіную мэту – пазбавіць вязьняў права на амністыю і не дапусціць іхняга датэрміновага вызваленьня.

spring96.org

## Праваабаронцы настойваюць на прызначэнні спецдакладчыка ААН па сітуацыі ў Беларусі



У канферэнцыі прымалі ўдзел партнёрскія НДА Фундацыі Дамоў правоў чалавека: Human Rights Watch, Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH), Беларускі Дом правоў чалавека, Amnesty International.

У сумесна падрыхтаваным дакладзе ўтрымліваецца ўсебаковы погляд на якасны бок працы Беларусі з механізмамі ААН па правах чалавека. Супрацоўніцтва ацэньвалася з пункту гледжання вынікаў, дасягнутых у краіне; рэкамендацый, выкананых дзяржавай; рэакцыяй дзяржавы на крытыку і агульнае стаўленне чыноўнікаў да ААН і міжнароднага права правоў чалавека.

27 чэрвеня Савет ААН па правах чалавека абмяркуе сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі на 20-й сесіі. Падчас гэтага абмеркавання Фундацыя Дамоў правоў чалавека разам з іншымі НДА запатрабуе прызначэння спецыяльнага дакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Спецыяльны дакладчык з'яўляецца незалежным экспертам, прызначаным Саветам па правах чалавека для кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў краіне або па канкрэтнай тэме.

spring96.org

## Баранавіцкая міліцыя не ведае рашэння выканкаму аб масавых мерапрыемствах




Грамадскі актывіст Рыгор Грык падаў чарговую заяву ў гарвыканкам аб правядзенні ў Баранавічах пікета “Спыніць рэпрэсіўныя дзеянні ўладаў і чыноўнікаў”. Ён ужо заключыў адпаведныя дамовы са спецаўтабазай на вываз смецця пасля мерапрыемства і з гарпаліклінікай па медыцынскаму абслугоўванню ўдзельнікаў пікету. Аднак ён не можа заключыць дамову з ГАУС. Намеснік начальніка аддзела ГАУС падпалкоўнік Трафімаў А.А. адмовіўся заключыць такую дамову. Ён пісьмова паведаміў грамадскаму актывісту, што калі гарвыканкам дазволіць правядзенне пікета, тады, маўляў, і заключым дамову па ахове грамадскага парадку.

– Згодна з рашэннем гарвыканкама ад 16 чэрвеня 2009 г. № 1497, копіі дамоваў з міліцыяй, спецаўтабазай і гарпаліклінікай арганізатар пікета павінен прадставіць ў гарвыканкам адначасова з заявай. А вось ці дазволіць гарвыканкам правесці пікет без дамовы з міліцыяй – гэта пытанне, на якое адкажа час,– адзначыў Рыгор Грык.

Сяргей Законнікаў

# ДАШКЕВІЧ ПЕРАВЕДЗЕНЫ З ПАМЯШКАННЯ КАМЕРНАГА ТЫПУ Ў АТРАД ГЛЫБОЦКАЙ КАЛОНІІ №13




Пра гэта БелаПАН паведаміла намеснік старшыні арганізацыі Наста Палажанка.

Паводле яе слоў, упершыню Дашкевіч пераведзены ў атрад. «З часу пачатку адбыцця пакарання Дашкевіч не выходзіў са штрафных ізалятараў і памяшканняў камернага тыпу. Спачатку так адбылося ў калоніі № 9 у Горках. Яго змяшчалі ў ШІЗА раз за разам — за тое, што ён патрабаваў нармальных умоў утрымання. Яму там нават прыйшлося аб’явіць галадоўку, пасля чаго ён быў пераведзены ў глыбоцкую калонію», — сказала Палажанка.

У калоніі ў Глыбокім Дашкевіча паводле яго заявы аб пагрозе жыццю і здароўю спачатку трымалі ў адзіночнай камеры, потым змясцілі ў штрафны ізалятар, затым — у памяшканне камернага тыпу, прадоўжыла Палажанка.

«Такім чынам, за паўтара года Дашкевіч упершыню знаходзіцца хаця б на адноснай волі, мае магчымасць паглядзець на неба над галавой», — сказала яна.

Палажанка адзначыла, што Дашкевіч, згодна з правіламі калоніі, павінен працаваць: «Аднак нам пакуль невядома, у які атрад ён пераведзены і кім ён працуе».

* * *

Зміцер Дашкевіч разам з актывістам «Маладога фронту» Эдуардам Лобавым быў затрыманы ў Мінску за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, 18 снежня 2010 года. Гэтае затрыманне прадстаўнікі апазіцыі і праваабаронцы расцанілі як прэвентыўную меру міліцыі напярэдадні выбараў. Маладыя людзі былі прызнаны вінаватымі ў збіванні двух мінчан. 24 сакавіка 2011 года суд прыгаварыў Дашкевіча да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. У верасні яму прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні, але ён адмовіўся.

spring96.org

# Шостая запар забарона пікета



Грамадскі актывіст Рыгор Грык 18 чэрвеня атрымаў ліст № 48 за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча. У ім паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам, кіруючыся Законам Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 № 114-З “Аб масавых мерапрыемствах” (у рэдакцыі Закона РБ ад 08.11.2011 № 308-З), не дае згоды на правядзенне пікета 24 чэрвеня 2012 года ў старым парку горада. Гарвыканкам лічыць, што заяўнік парушыў арт. 6 Закона “Аб масавых мерапрыемствах”. Праўда, якую канкрэтна норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў традыцыйна адмаўляецца называць.

Рыгор Грык хацеў правесці пікет пад лозунгам “Спыніць рэпрэсіўныя дзеянні ўладаў і чыноўнікаў”. Раней мы паведамлялі, што 8 чэрвеня грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў пісьмовае паведамленне аб тым, што з ім не будзе працягнуты кантракт 30 чэрвеня. Сам Рыгор Грык лічыць, што яго звальняюць з працы на Баранавіцкім аўтаагрэгатным заводзе за актыўную грамадзянскую пазіцыю і абарону правоў простых рабочых і грамадзян.

Гэта ўжо шосты запар ў гэтым годзе пікет грамадскіх актывістаў, які не дазваляе Баранавіцкі гарвыканкам.

Віктар Смоўж

# НЕЧАКАНАЯ ПЕРАМОГА: БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ СУД ПАДТРЫМАЎ ГРАМАДСКАГА АКТЫВІСТА

Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус атрымаў вызначэнне Брэсцкага абласнога суда па сваёй заяве, у якой ён аспрэчваў вынікі выбараў Рады на мясцовым каапрынку. Раней мы паведамлялі, што суддзя Баранавіцкага гарадскога суда Таццяна Жукава адмовілася разглядаць скаргу, у якой Мікалай Чарнавус прасіў гарадскі суд адмяніць вынікі "выбараў" Рады кірмашу на Баранавіцкім каапрынку, якія прайшлі з парушэннем заканадаўства. Суддзя Жукава Т.Ю. адмовіла ва ўзбуджэнні справы, таму прадпрымальнік ізвярнуўся са скаргай у Брэсцкі абласны суд.

Судовая калегія Брэсцкага абласнога суда па грамадзянскіх справах у складзе Хацько Е.П. (старшыня), судзей Міранюк Т.М. і Харытанюк К.Н. вызначыла: рашэнне суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы ад 4 красавіка 2012 года адмяніць і прыняць новае вызначэнне.

Гэта хоць і невялікая, але перамога грамадскага актывіста над складанай бюракратычнай судовай сістэмай краіны. Мікалай Чарнавус працягвае абскарджваць вынікі выбараў на Баранавіцкім каапрынку цяпер ужо ў Брэсцкім абласным гаспадарчым судзе.

– Калі мы не навучымся праводзіць выбары такога ўзроўню, як, напрыклад, Рады рынку, дэмакратычна, адкрыта і справядліва, то тым болей ніколі не навучымся праводзіць іх на рэспубліканскім узроўні,- патлумачыў Мікалай Чарнавус.

Аляксей Пузікаў

## Жыхары Баранавіч патрабуюць зменаў выбарчага заканадаўства

Грамадскі актывіст Рыгор Грык сабраў 105 подпісаў жыхароў горада Баранавічы пад зваротам за змены выбарчага заканадаўства краіны.

У звароце прапануецца:

1) уключыць у выбарчыя камісіі прадстаўнікоў кандыдатаў у дэпутаты, а таксама сяброў недзяржаўных палітычных партый і грамадскіх арганізацый;

2) адмяніць папярэдняе галасаванне як галоўную крыніцу фальсіфікацый і парушэнняў Выбарчага кодэкса;


"Адкрыты" падлік галасоў на выбарчым участку № 42 інтэрната будтрэста № 25 г. Баранавічы 19 снежня 2010 года.

3) усталяваць празрыстыя скрыні для галасавання;

4) стварыць умовы, каб пры падліку галасоў назіральнікі бачылі, за каго прагаласаваў выбаршчык;

5) абавязаць кіраўнікоў выбарчых камісій усіх узроўняў вывесіць тэлефоны міжнародных назіральнікаў і кантралюючых дзяржаўных органаў.

Зварот накіраваны ў Адміністрацыю прэзідэнта і Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў

Рыгор Хахлоў

## Баранавіцкі актывіст – за паслядоўнасць у выкананні законаў



Працоўны Баранавіцкага аўтаагрыгатнага завода і актыўны грамадскі актывіст Рыгор Грык накіраваў пісьмовыя заявы ў Следчы камітэт, Міністэрства ўнутраных спраў і Генеральнаму пракурору краіны. У лістах ён паведамляе, што 22 мая 2012 года суд Савецкага раёна Мінска задаволіў пазоў аператара Мазырскага нафтаперапрацоўчага заводаМарыны Цыбліенкі да апазыцыйнага палітыка Віктара Івашкевіча. Будынак суда пікетавалі 25 прадстаўнікоў афіцыйнай Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай, а таксама актывісты Беларускага Рэспубліканскага Саюза Моладзі (БРСМ) і мазырскія прыхільнікі Марыны Цыбліенкі.

– Думаю, што тут відавочна прагледжваецца парушэнне арт.23.34 КаАП РБ, арт.425 КК РБ,- паведаміў Рыгор Грык. - У нашай краіне адным можна праводзіць масавыя мерапрыемствы ў забароненых месцах, а другім нельга – нават у дазволеных.

У сваіх лістах грамадскі актывіст просіць Следчы камітэт, Міністэрства ўнутраных спраў і Генеральнага Пракурора краіны правесці праверку і прыцягнуць у адпаведнасці з законам да адказнасці тых грамадзян, якія прымалі ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве.

Сяргей Законнікаў

## Прапановы па гуманізацыі крымінальна-выканаўчага заканадаўства могуць патануць у бюракратычнай перапісцы



Сябра БХК з Баранавіч Анжаліка Камбалава

Сябра Баранавіцкай гарадской філіі БХК Анжаліка Камбалава атрымала адказ ад намесніка старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу па нацыянальнай бяспецы Анатоля Ваньковіча, якому дасылала прапанову пра гуманізацыю крымінальна-выканаўчага заканадаўства ў адносінах да асуджаных.

У сваім адказе Анатоль Ваньковіч паведаміў, што зварот Анжалікі Камбалавай уважліва вывучаны пастаяннай камісіяй ПП НС па нацыянальнай бяспецы і далей накіраваны ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў і Міністэрства ўнутраных спраў.

– Баюся, што мае прапановы па гуманізацыі крымінальна-выканаўчага заканадаўства могуць патануць у звычайнай бюракратычнай перапісцы, якая будзе цягнуцца доўга і наўрад ці прывядзе да станоўчых зменаў нашага заканадаўства,– лічыць Анжаліка Камбалава.

Рыгор Хахлоў

## ПАМЁР ВЯДОМЫ БЕЛАРУСКІ ПРАВААБАРОНЦА БАРЫС ЗВОЗСКАЎ



Сёння ўначы пасля працяглай і цяжкай хваробы пайшоў з жыцця вядомы беларускі праваабаронца, адзін з заснавальнікаў аб’яднання «Прававая ініцыятыва», першы прэзідэнт Беларускага Дома правоў чалавека, «Праваабаронца года Беларусі-2008» Барыс Ігаравіч Звозскаў. Яму было 63 гады.

Вельмі шчыры і добрасумленны чалавек, Барыс Ігаравіч заслужыў сваёй прафесійнай і адданай працай вялікі аўтарытэт: ён быў абаронцам у палітычна-матываваных справах, шмат працаваў з журналістамі і актывістамі па пытаннях абароны ў адміністрацыйным і крымінальным працэсе, вялікі ўнёсак зрабіў у асвету і адукацыю па правах чалавека моладзі, юрыстаў, праваабаронцаў і адвакатаў.

Барыс Звозскаў нарадзіўся ў 1949 годзе ў Белагорску (Расія), скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Да 1987 года працаваў інжынерам электроннай тэхнікі ў арганізацыі «Каскад» Міністэрства сярэдняга машынабудавання СССР, затым — у канцэрне «Планар».

Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказвае самыя шчырыя спачуванні сям’і і блізкім Барыса Ігаравіча.

Развітанне з Барысам Звозскавым адбудзецца 19-га чэрвеня ў Доме Смутку «Цырыманіял», які месціцца на перакрыжаванні вуліц Тухачэўскага і Куляшова (побач з вайсковай часткай) у Менску, з 13.00 да 15.00.

Просім улічваць, што вянкі са штучных кветак не змогуць быць выкарыстаныя ў цырымоніі пахавання, і аддаваць перавагу жывым кветкам.

spring96.org

## Брэсцкі абласны гаспадарчы суд прапануе Мікалаю Чарнавусу міравое пагадненне



Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус нарэшце атрымаў ліст з Брэсцкага абласнога гаспадарчага суда за подпісам суддзі Г.С. Трушко, у якім паведамляецца, што абласны гаспадарчы суд, кіруючыся арт. 161, 168-170, 212-214 Гаспадарча-працэсуальнага кодэкса, прымае зыскавую заяву Чарнавуса да разгляду. Падрыхтоўчае судовае пасяджэнне адбудзецца 21 чэрвеня а 15-ай гадзіне ў памяшканні гаспадарчага суда Брэсцкай вобласці. З ліста вынікае, што абласны гаспадарчы суд настойліва рэкамендуе заяўніку і адказніку заключыць міравое пагадненне.

Раней мы паведамлялі, што ўжо амаль 7 месяцаў Мікалай Чарнавус імкнецца аспрэчыць вынікі “выбараў” Рады кірмашу на Цэнтральным каапрынку Баранавічаў. На думку Мікалая Чарнавуса, гэтыя выбары былі праведзены з парушэннем дзеючага заканадаўства. Новая Рада кааператыўнага кірмашу была прызначана адміністрацыяй горада і рынка, а не абрана агульным сходам прадпрымальнікаў. Не вырашылі гэтую праблему Баранавіцкі гарадскі, а затым у Брэсцкі абласны суд. Толькі з трэцяга разу Мікалай Чарнавус дабіўся, каб Брэсцкі абласны гаспадарчы суд прыняў да разгляду яго зыскавую заяву. Аднак абласны суд прапануе бакам скончыць справу міравым пагадненнем на любой стадыі працэса. Мала таго, суддзя Трушко, спасылаючыся на арт.259 Падатковага кодэкса РБ, нагадвае Мікалаю Чарнавусу, што калі адбудзецца прымірэнне з адміністрацыяй Баранавіцкага каапрынка, то гаспадарчы суд верне яму 50% дзяржаўнай пошліны.

Сяргей Законнікаў

“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”

Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
З пытаньнямі, заўвагамі і прапановамі звяртацца на адрас: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Накалад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ